 




# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 15 (528) Год XI — 10 КРАСАВІКА 1966 г. — Цана 60 гр


## АПАВЯДАННЕ — ЖАНР СКЛАДАНЫ

На старонках «Нівы» ўжо ішла гаворка пра паэзію, змешчаную ў першым нумары «Белавежы» Але ж у альманаху нават большую плошчу, чым паэты, завявалі сабе празаікі.

Найбольш яркім па сіле мастацкага таленту выступае тут Сымон Раманчук.

Вось апавяданне «Вар'ятка» Старая маці ўжо больш дваццаці гадоў чакае сына, які не вярнуўся з вайны. Штодзённа ходзіць яна на аўтобусны прыпынак. У вёсцы яе лічаць вар'яткай. Але сэрца маці жыве надзеяй. І толькі гэтая велізарная надзея на сустрэчу з любімым сынам дае ёй сілы, каб жыць.

Мы чытаем апавяданне і нібы чуем словы аўтара, падтэкст: «Не забывайце бацькоў сваіх! Памятайце, што маці думае пра кожнага з вас, хвалюецца, марыць начамі пра сустрэчу, бо вы яе дзеці, яе надзея і шчасце. Памятайце пра маці заўсёды, і калі вы далёка ад дому, хоць пішыце часцей, а пры выпадку прыязджайце, — мама сустрэне вас, яна будзе шчаслівай».

Глыбокім гуманістычным пафасам напоўнены апавяданні С. Раманчука «Дзядуля» і «Чалавек». «Дзядуля» сюжэтам сваім хоць неяк і апасродкавана, але крыху напамінае «Лёс чалавека» М. Шолахава. Стары Андрэй (дзіўна, але нават імя героя ў Шолахава і Раманчука аднолькавае), сыны якога загінулі ў час вайны, падабраў хлопчыка Міраслава. І свядомасць, што ён гадуе малога чалавека, выводзіць яго ў людзі, грэе душу старога Андрэя. Вялікая чалавечнасць, спагада да чужога гора, душэўная цеплыня вызначаюць характар дзядулі.

Актуальнай праблеме, звязанай з жыццём сучаснай вёскі, прысвечана апавяданне С. Раманчука «Ідуць дні, дзянёчкі». (Зазначым, што яго назва няўдалая, яна не вяжацца са зместам твора). Апавяданне, як відаць, было закроена на аповесць. І аўтар можа сапраўды яго дапрацаваць. Тут так і адчуваецца пэўная недагаворанасць, недаразвіццё характараў галоўных герояў, нейкая фрагментарнасць нават у кампазіцыі — кавалкі, аддзеленыя адзін ад другога зорачкай.

Старая Маліноўская жыве даўнейшымі ўяўленнямі, адасобілася ад людзей, хоча мець зямлі як найбольш, трымае ў руках сына. Сын яе жыве адарваны ад культуры, навукі, забаў і радасцей, ведаючы толькі працу на зямлі, укладваючы сілы і маладосць у гектары. Зразумеўшы, што так далей жыць нельга, Ваня парывае з затхлым светам мяшчанства і жаднасці. Яго пратэст нейкі стыхійны, раптоўны. Мы не бачым, як да яго прыйшоў чалавек. І тут менавіта аўтару ёсць над чым падумаць. Вобраз сына Маліноўскай можа быць цікава разгорнуты. І тым больш, што яго лёс ужо звязаны з другім чалавекам, дзяўчынай, якую ён кахае, Лідай.

(Працяг на стар. 5)

НОВЫЯ ВЕРШЫ

УЛАДЗІМІР КАРАТКЕВІЧ

*

*Бацькі з магіл цяплом дыхнулі,*
*З узгоркаў снег схаваўся ў рой,*
*І кожны ўзгорак, нібы вулей,*
*Ад спрэчкі кветак і чмялёў.*
*Загіне, хто ў мінулым дрэме:*
*Буяна травы ймкнуцца да зор*
*Навыперадкі, напярэймы,*
*Узахапы і насупор.*
*Сок крочыць па мільёнах лесвіц,*
*Па клетках, — аж да верхавін,*
*Каб падарыць сусвету песні,*
*Здабытыя з зямных глыбінь.*
*Ляжу каля лясных узбочын,*
*Ляжаць і ждуць мяне гады,*
*І п'юць ускінутыя вочы*
*Ўсю повень неба і вады.*
*Мне цяжар шчасця грудзі сплюснуў,*
*Спляліся валасы з травой,*
*І мятлушка сядзіць на вуснах,*
*Каб разам уздыхаць са мной,*
*Даволі марнай жыць пагоняй,*
*Жывецца або не — жыві!*
*Кароўка божая ў далоні,*
*Як кропля божае крыві.*
*І зноў бязмежны свет чакае,*
*Свет сэрцаў, песень і бароў.*
*Дай мне, вясна, шляхі без краю,*
*Дай сэрцу вечную любоў.*
*Зямля гудзе, як цёплы вулей,*
*Знікаюць крыўды, боль, і зло...*
*Бацькі з магіл цяплом дыхнулі,*
*Каб дзецям жыць лягчэй было.*



*У беларускім этнаграфічным музеі ў Белавежы. Народныя вырабы з саломы.*

Фота С. Грыняўцкі

## У СПРАВЕ ДАЯЗДЖАЮЧЫХ ВУЧНЯЎ

Штодзённа ў нашым ваяводстве спяшае да паяздоў і ПКС-аў каля 10-ці тысяч моладзі, якая вучыцца. Толькі ў адным Бельску даязджаючай моладзі налічваецца каля 600 чалавек, гэта значыць каля 30% ліцэістаў. Гэтыя лікі напэўна павольшацца цяпер, вясною, калі ёсць лепшая магчымасць дайсці ці даехаць да паўстанку поезда, ПКС-а.

ВАЖНАСЦЬ ПРАБЛЕМЫ...

...вынікае з розных бакоў. Перад усім даязджанне ўплывае вельмі адмоўна на вынікі навучання, а пасрэдна і на спраўнасць школы. Нельга сказаць, што ўсе даязджаючыя моюць кепскія ацэнкі і абніжаюць узровень школы. Але калі так не ёсць, дык трэба сабе ўявіць, коштам якіх фізічных і псіхічных намаганняў яны гэта робяць. Трэба ўрэшце ведаць, што намаганняў у маладым узросце не адчуваецца, але ў старэйшым узросце гэтыя людзі пачынаюць хварэць на найдзіўнейшыя хваробы. Ёсць і трэці не менш важны бок гэтай справы —

ВЫХАВАННЕ.

Амаль штодзённа даводзіцца мне падарожнічаць поездам з гэтымі маладымі людзьмі. Бачу іх і іх паводзіны. Хачу сказаць, што паводзіны вучняў мяне не здзіўляюць, хаця ніяк іх не магу назваць адпаведнымі. Вельмі часта, а мо' і зачаста, чуюцца такія словы: «якая гэта сённяшняя моладзь, нават старэйшаму месца не ўступіць», або «ох, гэтая сённяшняя моладзь, як яны лаюцца, граюць у карты, кураць папяросы» і тп. і тд. Так. Але амаль ніколі не здарылася, каб нехта са старэйшых звярнуў увагу, што моў «перастаньце курыць, бо скажу кандуктару і аб гэтым даведаецца школа». Адзін толькі раз бачыў, калі нейкі пасажыр, убачыўшы хлопцаў, якія ігралі ў карты на грошы, падышоў і, глянуўшы на «тарчу», запытаў: «Гэта з механічнага тэхнікума такія ігракі?» Хлопцы пачырванелі і хутка кінулі ігру.

*(Працяг на стар. 4)*



*Усім нашым чытачам шлем сардэчныя Святочныя пажаданні.*

РЭДАКЦЫЯ

## КОНКУРС

«Кожны стваральнікам рэпертуару»

Беручы пад увагу штораз больш узрастаючыя і пільныя патрэбы аматарскага руху ў галіне рэпертуару Прэзідыум Галоўнага праўлення БГКТ прыняў пастанову, згодна з якой аб'яўленая ў № 12 (525) «Нівы» за 20 сакавіка 1966 г. акцыя «Кожны стваральнікам рэпертуару» будзе адбывацца ў рамках конкурсу пад гэтай назвай.

У сувязі з тым звяртаемся яшчэ раз да ўсіх членаў літаратурна-мастацкага аб'яднання «Белавежа» і да ўсіх, хто мае здольнасці да пісання, каб прыступілі да конкурсу і прынялі ўдзел у стварэнні:

1. П'ес — колькасць асоб 8—12, лёгкіх да пастаноўкі на 30—40 мінут;
2. Сцэнак — гумарыстычна-сатырычных на 2 асобы;
3. Скетчаў, кароткіх гумараў, сатырычных вершаў і гд;
4. Канферансье (вядучага слова) для эстрадных вясковых гурткоў і гд;
5. Частушак або тэкстаў да вядомых мелодый.

Форма, змест і колькасць не агранічваецца, ёсць вялікая магчымасць друку.

Згодна з прынятымі правіламі ў конкурсах падпісваць свае творы псеўданімамі або іншымі знакамі (сімваламі) напр. «Саха», «Бяроза», «Матылёк» і гд. (не выкарыстоўваць паданых вышэй).

Свае сапраўднае прозвішча, адрас і назвы твораў пісаць на картках у заклееных канвертах, якія трэба падпісаць згодна з подпісам пад творам.

Прысылаць да 15 мая г. г. на адрас:
ZG BTSK. Białystok, ul. Warszawska 11.

Лепшыя працы будуць узнагароджаны
I узнагарода — 1000 зл.
II „ — 800 зл.
і 2 III „ па — 600 зл.

Апрача гэтага за працы выкарыстаныя ў друку аўтары атрымаюць ганарар.

Кіраўнік культурна-асветнага аддзела ГП БГКТ
М. ЛОБАЧ

 

# КУЛЬТУРНЫ АГЛЯД

### ШЛЯХАМ ЛЕНІНА ПА СВЕЦЕ

Выстаўка «Шляхам Леніна» — гэтая біяграфія Леніна ў карцінах, — адкрыта ў Музеі рэвалюцыйнага руху ў Беластоку. Аўтар — Уладзімір Закшэўскі — мастак рэаліст старэйшага пакалення, родам з Бельска на Беласточчыне. Каб стварыць цыкл карцін «Шляхам Леніна» — прайшоў яго слядамі праз усе краіны і гарады, дзе некалі пабываў Ленін. Ад СССР праз Польшчу, Германію, Швейцарыю, Аўстрыю, Англію.

*

### АІДА — ЕГІПЕЦКАЯ НЯВОЛЬНІЦА

Оперу «Аіда» Д. Вердзі напісаў па заказу на адкрыццё Суэцкага каналу ў 1869 г. Гэты лепшы твор Вердзі пераносіць нас у часы старажытнага Егіпту і яго войнаў з суседняй Эфіёпіяй. Аіда — імя дзяўчыны — дачкі цара Эфіёпаў, якая знайшлася ў сітуацыі егіпецкай нявольніцы. Эстраднае выкананне оперы даў нам Беластоцкі сімфанічны аркестр з удзелам салістаў з Балтыйскай оперы ў Гданску.

*

### «ЖАВАРАНАК» — АБАЗНАЧАЕ ВЯСНУ

«Жаваранак» — новая п'еса ў Беластоцкім тэатры лялек «Свершч» — гэта твор Кшыштофа Орскага — рэжысёра таго ж тэатра, які сапраўды называецца Кшыштоф Роу. «Жаваранак» — амбітны твор і хутчэй для моладзі і дарослых, чым для дзяцей. Хоць дзеці таксама жыва адчуваюць нядолю жаваранка і яго прыяцеля — малога марозіка, якіх праследуюць і хочуць замарозіць усе вялікія маразы. Найбольшы з вялікіх крычыць, што яго жаданнем увесь зямны шар замяніць у кусок ільду. Але... яснее, ідзе вясна і вяртаецца радасць. Жаваранак спявае адвечную песню жыцця і красы. Дрэнны мароз гіне, выкінуты рукамі сяброў. На здымку: нарада марозаў.

*

### СВЕТ ВАКОЛ НАС — НЕСПАКОЙНАЯ БЕЛАВЕЖА

Неспакойны дух Белавежы жыве. Гаворачы аб неспакойным духу Белавежы маю на думцы перад усім Таварыства прыяцеляў Белавежы. Пасля цікавага цыкла «Усё аб Белавежы», Таварыства распачало новы цыкл «Свет вакол нас». Кожную нядзелю ў Белавежы цікавыя мерапрыемствы. У апошнюю была лекцыя д-ра Андрэя Барткага з Ягелонскага універсітэта ў Кракаве. Гаварыў ён і паказваў на каляровых здымках «Нацыянальныя паркі ЗША». Як ведаем, да ліку такіх паркаў — рэзерватаў належаць таксама кускі лесу, дзе паводле сваіх даўніх звычаяў жывуць індзейцы. Некалі вольныя і праўныя ўласнікі Амерыкі, вядуць зараз сваё жыццё напаказ і толькі ў рэзерватах.

*

### ФАРАОН — УРЭШЦЕ НА ЭКРАНЕ

Праслаўлены і з усіх бакоў апісаны фільм «Фараон» увайшоў на экраны кіно Беласточчыны. Шырокі экран, колер! Пяскі пустыні, святыя жукі, напалавіну голыя мужчыны, зусім голыя жанчыны... Такой рэкламы моды старажытнага Егіпту яшчэ не давялося бачыць. Фільм ідзе трц з паловай гадзіны, білет у кіно «Покуй» каштуе 30 зл. Многа, але варта не пашкадаваць, хоць можна замяніць: яшчэ раз (або першы раз) прачытаць твор, таксама «Фараон» Баляслава Пруса, паводле якога зрабіў фільм Ежы Кавалеровіч. Фільм не пераўвышае вялікага і багатага шэдэўра Пруса. (вл)



Фота Я. Пяхоўскі.

## Палкоўнік Абель расказвае

Ну, а далей, як і ў любой іншай галіне чалавечай дзейнасці, — спачатку ўпартая, настойлівая вучоба, за ёю нясмелыя, няўпэўненыя самастойныя крокі, першыя поспехі... А затым і сталасць, і ўменне, і майстэрства, і ўсё большыя магчымасці ў поўнай ступені выкарыстаць усе свае творчыя здольнасці.

Поспех разведвальнай работы цалкам і поўнасцю залежыць ад таго, якія кадры мае разведка.

На работу ў разведку з вялікай ахвотай і з поўным усведамленнем яе важнасці і значэння ідуць лепшыя прадстаўнікі нашай моладзі. Яны праяўляюць выключную ўпартасць і настойлівасць у дасягненні пастаўленай мэты, пераймаючы вопыт работы старэйшых таварышаў — сапраўдных майстроў сваёй справы.

Вядома, што разведчыку прыходзіцца дзейнічаць у варожым акружэнні, пастаянна падвяргаючы сваё жыццё небяспецы. Складанасць і рознабаковы характар задач, над вырашэннем якіх працуюць савецкія разведчыкі, патрабуюць творчага авалодання марксісцка-ленінскай тэорыяй, выразнай арыентацыі ў палітычнай абстаноўцы, умення растлумачыць палітыку нашай партыі і Савецкай дзяржавы, пераконваць у яе правільнасці. Разведчык павінен мець добрую агульнаадукацыйную падрыхтоўку, шырокі кругагляд, ведаць замежныя мовы.

Умовы работы і абстаноўка ў капіталістычных краінах абавязваюць разведчыка пастаянна быць пільным, старанна захоўваць правілы канспірацыі. Адданасць сваёй Радзіме, сумленнасць і дысцыплінаванасць, самаахвярнасць, знаходлівасць, уменне пераадольваць цяжкасці і нястачы, сціпласць у быце — такі далёка не поўны пералік патрабаванняў для дзелавых, палітычных, асабістых якасцей савецкага разведчыка.

Разведка — гэта не прыгодніцтва, не якое-небудзь трукацтва, не вясёлыя паездкі за граніцу, а перш за ўсё карпатлівая і цяжкая праца, якая патрабуе вялікіх намаганняў, напружанасці, упартасці, вытрымкі, волі, сур'ёзных ведаў і вялікага майстэрства.

Памятаеце, як гаварыў Дзяржынскі?

—Чыстыя рукі, халодная галава і гарачае сэрца...»

У гэтых скупых, але дакладных словах закладзен выключна глыбокі сэнс. Яны, калі хочаце, з'яўляюцца своеасаблівым компасам для разведчыка, дапамагаюць знаходзіць сілы і мужнасць у любой абстаноўцы. У гэтым я пераканаўся на сваім уласным вопыце ў часе апошняй камандзіроўкі ў ЗША, калі ў выніку здрадніцтва мне прыйшлося твар у твар сустрэцца з амерыканскай контрразведкай.

...Вечарам у суботу 22 чэрвеня 1957 года я сядзеў на крэсле ў маленькай камеры і з цікаўнасцю аглядаў памяшканне, у якім знаходзіўся. Злева ад мяне стаяў армейскі ложак, пакрыты коўдрай. Ён быў прысунуты ўшчыльную да сцяны, а над ёю выдзялялася акно з жалезнай рамай, кратамі са сталёвых прутоў і арміраваным шклом. Знадворная сцяна будынка была складзена з блокаў. Прама перада мною была трэцяя сцяна, і на яе правым краі скошаным пад вуглом 45 градусаў было прымацавана крэсліца. Бліжэй да дзвярэй камеры да сцяны была прымацавана невялікая ракавіна. Справа ад мяне сцяной служылі сталёвыя краты шырынёй паўтара метра з дзвярыма. Сям-там была адбіта тынкоўка. Напэўна, ранейшыя насельнікі турмы правяралі трываласць сцен. — З-пад тынкоўкі тырчэлі такія ж сталёвыя краты, як ля дзвярэй. Я ўважліва іх агледзеў. Яны былі зроблены з кавалка сталі прыкладна 5 міліметраў таўшчынёй, з прадаўгаватымі шасціграннымі прасветамі размерам прыблізна 5x10 сантыметраў.

За дзвярыма камеры сядзеў лейтэнант пагранічнай службы. Ён яўна нудзіўся, лічачы, напэўна, што быць наглядчыкам не адпавядае яго службоваму становішчу. Я ведаў, што гэтыя афіцэры ўзначальвалі невялікія групы салдат, якія патрулявалі ўздоўж граніцы. Яны затрымлівалі і затым дапытвалі парушальнікаў. Па ўсёй паўднёвай граніцы ЗША парушальнікамі былі ў асноўным мексіканцы, якія перабіраліся нелегальна ў Тэксас і Каліфорнію ў пошуках заработку. Значную частку часу гэтыя лейтэнанты праводзілі ў зарасніках уздоўж ракі Рыо-Грандэ, і, відаць, ім не вельмі падабалася сядзець на крэсле ў калідоры цёмнага памяшкання і вартаваць мяне.

Але становішча лейтэнанта менш за ўсё мяне турбавала ў гэты вечар. Прайшоўшыя паўтара сутак былі так насычаны падзеямі, што неабходна было ва ўсім разабрацца.

Працяг будзе




### ВАСІЛЬКАЎ АД ВАСІЛЬКА

**У разгалінаванні балоцістых далін рэк Чоркай і Супраслі распалажаны Васількаў. Аддалены ён ад Беластока каля 8 км. З крыніц вынікае, што назва Васількаў паходзіць ад імя яго заснавальніка Васілька. У 1566 годзе па даручэнню Зыгмунта Аўгуста асноўвае ён асаду. У хуткім часе атрымоўвае яна гарадскія правы магдэбургскія. Кароль Зыгмунт Аўгуст засноўвае касцёл з двума фальваркамі, а таксама вёскамі Дамброўскай і Студзянкай. У 1665 годзе ў горадзе быў рынак, 9 вуліц і прадмесце Волька. Побач гаражан пражывалі сяляне, якія бараніліся перад старастай.**

**Калі ідзе пра гаспадарчае развіццё горада, то можна аб ім гаварыць толькі пасля лістападаўскага паўстання. З прычыны таможнага бар'еру, які адгароджваў Каралеўства Польскае ад Расіі, пачала развівацца тэкстыльная прамысловасць у беластоцкай акрузе. І таму ўжо ў 1860 годзе Васількаў, які налічваў каля 1400 жыхараў, меў сваю тэкстыльную мануфактуру, фабрыку сукна, дзве гарбарні, млын і шмат саматужных ткацкіх майстэрань. Але ў пачатку XX стагоддзя прамысловасць перажывала заняпад. Зменшыўся лік прадпрыемстваў. Новае гаспадарчае ажыўленне адзначаем у міжваенны перыяд. І так, у 1937 годзе Васількаў меў 11 прадпрыемстваў, дзе працавала каля 550 рабочых.**

**Варта таксама ўспомніць пра вядомыя прыклады барацьбы рабочых Васількава. Праводзілі яны станоўчыя забастовачныя акцыі ў 1885 г., 1887 г., 1905 і 1933 г.г. Усімі выступленнямі кіравалі рэвалюцыйныя партыі СДКПіЛь, КПП і КПЗБ.**

**У час акупацыі Васількаў зазнаў шматлікіх матэрыяльных страт. Загінула таксама многа яго жыхараў. Напрыклад, 15 ліпеня 1943 года гітлераўцы расстралялі 33 асобы, у гэтым 15 дзяцей.**

**У дваццацігоддзі народнай улады шмат змянілася ў горадзе. Адбудавана тэкстыльную прамысловасць, а таксама прыведзена ў рух многа культурна-грамадскіх установаў, апрацоўчыя прадпрыемствы — млын, пякарню і каўбасную. Горад атрымаў новую школу і электрычнае святло.**

Б. НІКІЦЮК

## 30 год таму ў Іспаніі

**Набліжаецца XXX гадавіна ад пачатку славутай абароны Іспанскай Рэспублікі перад фашысцкім мяцежам. Многія рэвалюцыянеры Беласточчыны прымалі непасрэдны ўдзел у гэтых славутых змаганнях. Некалькі ўжо тыдняў дзейнічае ў Беластоку Ваяводскі камітэт святкавання XXX гадавіны змаганняў у Іспаніі. Прадбачваюцца шматлікія мерапрыемствы. Святкаванне закончыцца 28 сакавіка наступнага 1967 года — якраз у гадавіну смерці праслаўленага ў Іспаніі генерала Вальтэра Свярчэўскага. (вр)**

### ЛІСТВ З МАЁЙ ВЁСКІ

## Пра Іванаву сячкарню

Учора сапсавалася мая сячкарня. Пайшоў я да Дзмітравага Івана сечкі рэзаць. Івана не было ў хаце, толькі стары Дзмітрый сядзеў на запечку і нешта мармытаў пад носам.

— Дзе Іван? — спытаў я.

— Няма Івана ў хаце, — адказаў Дзмітрый, — паехаў у лес дрэва вывозіць. — Закашляўся і запытаў. — А ты што, не ездзіш?

— Не, не езджу.

— А грошы адкуль маеш?

— Грошы не маю.

— Ды як ты жывеш без грошай? — са спачуваннем спытаў стары Дзмітрый.

Толькі выйшаў я на панадворак, як Іван паявіўся ў варотах: на абед прыехаў.

— Ці можна ў цябе сечкі нарэзаць? — спытаў я.

— Рэж, — адказаў Іван і павёў мяне ў гумно.

Сячкарня Іванава аказалася аднак непрыдатнай да працы: астрыё заіржаўленае, трыбы ненааліўяныя, скрынка растраслася. Іван спрабаваў пакрунуць каляско і сказаў:

— Яна цяжэйшая ад воза, трэба даправіць, прыдасца і сабе часам сечкі нарэзаць.

Пакуль Іван наладзіць сваю сячкарню, прысядзем на снапку саломы ды пагутарым аб тым, як Іван гаспадарыць.

*

Вось менавіта: як Іван гаспадарыць, а як гаспадарыў яго бацька.

Бо трэба ведаць, што ў Іванавага бацькі сячкарня ніколі — зімою ні летам — не мела заіржаўленых астрыёў і ніколі не была ненааліўянай. Калі стары Дзмітрый, бывала, пакрунуў кола сячкарні, гучала яна бадзёра, гучна, адрывіста:

— Джах, джах, джах!

Дзмітрый любіў калісьці такую забаву: раскруне, бывала, кола сячкарні на ўсю пару ды пусціць. Сячкарня доўга, быццам бы пуджаная няведамай сілай круціцца і рэжа: — джах, джах, джах!

Вострыя асколкі сечкі рассыпаюцца далёка па таку, а ў горле сячкарні застае рэгулярны прамавугольнік саломы, сцяты роўненька, бы пірог пасля зрэзання лустачкі. Часам толькі здаралася — у ніжнім вугле аставалася некалькі растрэпаных, недарэзаных саломінак. Тады стары Дзмітрый кідаў рэзаць і, мармычучы нездаволена, пляваў на вастрыё і доўга, зацята вастрыў сячкарню, пакуль ізноў не пачала яна рэзаць роўна да канца.

Дзмітраў сын, Іван, ніколі ўжо не навострыць так сячкарні, як яго бацька. Ды не толькі сячкарні: ніколі, мабыць, толкам не пазатыкае дзірак у саламянай страсе, якую пашыў яшчэ бацька, не замяце як след таку ў гумне, і не зробіць вогуле гаспадарскага парадку.

Стары Дзмітрый лічыў сваім гонарам дапраўленую да астатковага парадку сячкарню, па-майстэрску даладжаная сячкарня была яго радасцю і задавальненнем, так як быў ім чыста замецены ток і роўна пашытая страха.

Дзмітраў сын, Іван, мае іншыя радасці і іншыя задавальненні. Дзмітраў Іван ведае вартасць залатоўкі, умее цаніць залатоўку і ўмее рабіць залатоўку. Іван пераканаўся, што можна жыць і без даправленай сячкарні, што дзіркі ў страсе, хаця рэч і нядобрая, але не на толькі дрэнная, каб варта было траціць час на іх латанне і што ўрэшце замецены ток у гумне прыносіць так малую карысць, што наогул не варта яго замятаць.

А найважнейшы ў Іванавай гаспадарцы не парадак, але грошы. У Іванавых хлявах чатыры дойныя каровы, якія даюць каля паўтары тысячы даходу ў месяц. Іванава жонка корміць на продаж некалькі свіней, а сам Іван цэлымі днямі працуе з канём у валілаўскім лесе, зарабляючы па 150 злотых у дзень.

Іван скончыў ладзіць сячкарню.

— Трэба было б, — кажу, — падмесці неяк ток, каб было дзе сечцы сыпацца. Мятлы ніякай не маеш, ці што? У лесе жывеш і мятлы не маеш!

— Не маю чаго рабіць: мяцёлкі вязаць, — злосна адказаў Іван.

Пайшоў да хаты і прынёс шчотку купленую ў гандлёвым доме хатняй гаспадаркі за 120 злотых, набітую на прыгожа адточаны кій, таксама куплены ў краме, ды пачаў ёю замятаць гумно.

*

Скончыўшы рэзаць сечку, яшчэ раз заглянуў я да Дзмітра. Сядзіць стары на запечку нерухома і глядзіць абыякавым зрокам у неакрэсленую даль. Перастаў ужо выходзіць нават на панадворак і глядзець на Іванавы парадкі. Ведае, што ў гаспадарцы найважнейшы эканамічны абарот і пытае мяне яшчэ раз:

— А ты не ездзіш у лес?

— Не.

— Дык адкуль грошы маеш?

Рыгор Паўлюк

 

# Павятовыя агляды



На здымку: Зубры. У ролі Мацейкі — Толік Гапунік, а ў ролі Кацярынкі — Галіна Клебус.

Фота У. Зарэцкі.

Як штогод так і цяпер Беларускае грамадска-культурнае таварыства праводзіць агляды драмгурткоў з беларускім рэпертуарам. Гэты год даволі бедны ў колькасць гурткоў, якія прыступілі да павятовых аглядаў. У мінулым, бывала, брала ўдзел у такіх конкурсах у Бельскім і Гайнаўскім паветах па 9—12 мастацкіх калектываў. Вось, напрыклад, у 1962 годзе ў Бельску прыехала на агляд 12 драмгурткоў, а ў 1963 годзе ў Гайнаўскім павеце агляды адбыліся ў трох мясцовасцях, а менавіта: у Старым Корніне, Чыжах і Дубінах. Зараз у ніводным павеце не ўзяло ўдзелу больш 3-ох аматарскіх калектываў.

### БЕЛЬСКІ АДДЗЕЛ

У Бельску на аглядах спаборнічалі паміж сабою два драмгурткі з Паўлаў і Локніцы. Паўлаўскія самадзейнікі пад мастацкім кіраўніцтвам настаўніка Сяргея Філіпюка выступалі з п'есай Кандрата Крапівы «Валодзеў гальштук». Паказалі яны даволі высокі ўзровень і атрымалі першае месца і першую ўзнагароду ГП БГКТ на суму 800 зл.

Моладзь Локніцы пад дырыжорствам настаўніка Рыгора Леўчука выставіла п'есу «Мікітаў лапаць» і атрымала другую ўзнагароду ГП БГКТ. Трэцюю ўзнагароду атрымалі школьнікі з Малінік, якія паказалі прысутным дзве пастаноўкі: «Боты» і «Міхалка».

### БЕЛАСТОЦКІ АДДЗЕЛ

Беластоцкі павятовы аддзел (з сядзібаю ў Міхалове) арганізаваў агляды ў святліцы ў Белявічах. Гаспадары святліцы падрыхтавалі «Паўлінку». Мастацкім кіраўніком была настаўніца Зіна Кахановіч — вядомая чытачам з аглядаў у 1965 годзе. Тады гэты драмгурток заняў першае месца і ў павятовым аглядзе, і ў аглядзе ў Беластоку на сцэне ГП БГКТ. Яны занялі першае месца. Драмгурток з Зуброў падрыхтаваў п'есу «Прымакі».

Самадзейнікі з Патокі пад дырыжорствам Міколы Краўчука паказалі аднаактоўку — «Знахарка». Гэтым двум калектывам прызнана другое месца.

### ГАЙНАЎСКІ АДДЗЕЛ

20-га сакавіка ў доме настаўніка ў Гайнаўцы выступалі тры драмгурткі. Моладзь Чыжоў пад мастацкім кіраўніцтвам настаўніцы Генрыкі Кульчакевіч паказала аднаактоўку М. Алтухова «На ўскраіне сяла», а моладзь з Ласінкі пад мастацкім кіраўніцтвам Мікалая Астапчука падрыхтавала «Суд» У. Галубка. Гэтым двум гурткам журы прызнала два другія аднолькавыя месцы і ўзнагароды — ад ГП БГКТ па 500 зл., і ад аддзела культуры Павятовай рады нарадовай па 800 зл.

Першае месца заваявалі самадзейнікі з Лешукоў, якія рыхтаваліся пры дапамозе настаўнікаў — Аляксандра Харкевіча і Аляксея Харкевіча. Адыгралі яны аж 3-ы аднаактавыя п'есы: «Соль» — А. Габора і Д. Шылоды (пераклад з вянгерскага), «Муж разява» — Фрычыэса Карынты і «Пярэстая красуля» — А. Чужыніна.

На высокім мастацкім узраўні ляшуцкая моладзь выставіла п'есу «Муж разява», зместам якой з'яўляецца вечна актуальная тэма — нявернасць жонкі. З гэтай п'есай Ляшукі будуць выступаць на сцэне БГКТ у Беластоку.

Выступаючы з пастаноўкай «Пярэстая красуля» захапіў усіх прысутных Пятро Лясота, які дасканала адыграў ролю Бобчыка.

Ляшуцкі халектыў атрымаў узнагароду ад ГП БГКТ у суме 800 зл., ад аддзела культуры — 1500 зл.

Па-за конкурсам драмгурткоў выступілі ў дуэце Вера Нікалаюк і Марыся Мікось з Ласінкі, якія выканалі 4 песні, беларускую, рускую, польскую і частушкі. (мх)

### САКОЛЬСКІ АДДЗЕЛ

У прыгожай, нядаўна пабудаванай школе ў Астраўку адбыліся павятовыя агляды драмгурткоў, якія арганізаваў Сакольскі аддзел БГКТ. Да агляду прыступіла тры калектывы: Сухінічы з п'есай «Міхалка», Крушыняны з «Ботамі» і Піражкі з пастаноўкай школьнікаў «Такі ўстыд». За найлепшы калектыў журы прызнала самадзейнікаў з Крушынян. Калектыў гэты прыступіў да агляду першы раз. Кіраўніком яго з'яўляецца настаўнік мясцовай школы Кірыл Авечка.

Кіраўнік арганізацыйнага аддзела ГП БГКТ
**Янка Семянюк**

# Новыя кватэры

Праблема істотная і балючая. Кватэр усім не хапае, хаця будуецца іх штогод больш. Паводле плана, зацверджанага Ваяводскай радай, у гэтым годзе на Беласточчыне пабудуецца 189 тысяч квадратных метраў жылой плошчы. Найбольш навых дамоў прыпадае на долю спулдзельчага будаўніцтва. Гэты напрамак будзе ўтрымоўвацца і далей.



На здымку: Будуецца пасёлак «Жэні» ў Беластоку.

**Фота В. Рудчык**

# У Малынцы было па-рознаму

Згодна з працаю Ю. Вісьнеўскага Малынка, як і некаторыя іншыя вёскі Заблудаўшчыны, заснаваныя былі выхадцамі з Літвы, нейкімі баярамі, у XV стагоддзі. Не думаю, аднак, каб да таго часу так прыгожая і выгадная мясціна, як Малынка, была незаселенай.

Зрэшты, не трэба сягаць аж так глыбока ў мінулае, каб убачыць пэўныя асаблівасці вёскі Малынкі, якія адрозніваюць яе ад суседніх вёсак.

Бо ці ж не цікава вёска Малынка тым, што, як толькі маглі запамятаць нашыя дзяды і прадзеды, ніколі тут аж да 1908 года не было ніводнага пажару. У 1908 годзе ў Малынцы ўспыхнуў пажар і згарэла тады больш чым палова вёскі. А было гэта так:

Найлепшы гаспадар Малынкі, Антон Дзмітручук, прайграў аднойчы суд з удавой Зосяй Сідаровіч, ды ў злосці нагаварыў свайго сына, Міхася, занесці гаршчок жару пад Жосіну клуню. Дваццацігадовы Міхась не быў з натуры злачынцам, ды як убачыў, якой бяды нарабіў аднавяскоўцам — захварэў і памёр. У час, калі сына хавалі, бацьку пагналі ў Сібір адбываць шэсць гадоў катаргі.

У рэвалюцыю 1905—1906 гадоў Малынка адна з першых у нашай аколіцы выступіла супраць паноў. Сяляне з Малынкі пачалі пасвіць быдла на панскіх лугах, ды секчы, быццам свой, панскі лес. Пан запатрабаваў у Малынку казакаў, якія, уварваўшыся ў вёску, пачалі лупцаваць сялян нагайкамі, а двух: Янку Красоўскага і Міхася Юшчука пасадзілі ў турму.

У 1915 годзе сяляне Малынкі выехалі ў «бежанства» ў глыб Расіі, некаторыя з іх ніколі ўжо не вярнуліся дамоў. Адступаючы, казакі спалілі ўсю вёску. Астаўся цэлым адзін школьны будынак, у якім некалькі гадоў падрад жылі сяляне ўсяе вёскі, якія вярнуліся з бежанства. Можна сабе ўявіць умовы іх жыцця!

У час дзейнасці Грамады ў Малынцы быў заснаваны гурток гэтай арганізацыі, які ўзначальваў Кастусь Юшчук, сын Міхася — зачыншчыка бунту з 1906 года.

У часы гітлераўскай акупацыі Малынка аказалася прыстанішчам партызан. На нашых хутарах партызаны чуліся як дома. Немцы ў вёсцы мелі двух здраднікаў, якія даносілі ім аб усім, аб чым ведалі. Адзін з іх быў нямецкім солтысам. Данёс ён немцам, між іншым, і аб тым, што на хутары Осіпа Федарчука звыш двух месяцаў пражываў ранены партызанскі лейтэнант. Злавіць партызана фашыстам аднак не ўдалося.

Страшна было жыць у тыя часы. Сяляне Малынкі баяліся, што за супрацоўніцтва з партызанамі немцы могуць знішчыць усю вёску. Каб выявіць, хто супрацоўнічае з партызанамі, немцы прыслалі ў Малынку правакатараў у ролі партызан. Сяляне Малынкі не паддаліся аднак правакацыі.

З радасцю вітала Малынка вызваленне ў 1944 годзе і з энтузіязмам прынялася да будовы новага жыцця.

**М. Красоўскі**
Малынка




*МАЛАДАЯ 1966 ГОДА*

Як павінна апранацца маладая да шлюбу, паводле сучасных законаў моды?

Такія і таму падобныя пытанні прысылаюць нам дзяўчаты. Зараз якраз надыходзіць перыяд, у якім найбольш бывае вяселляў. І таму з вялікай прыемнасцю напішу некалькі слоў пра сучасныя законы моды для маладой.

Традыцыйная шлюбная сукенка — гэта ўжо перажытак. Нават вялікія дыктатары моды стараюцца ўвесці ў шлюбны ўбор сучасныя элементы (напрыклад, доўгая сукенка з футровым каптурам і вэлюмам). Але ці нават гэтая мадэрнізаваная, доўгая сукенка не з'яўляецца анахранізмам? Каштуе шмат грошай, а потым не вядома што з гэтым фантам зрабіць...

Штораз больш дзяўчат шыюць такія сукенкі, якія можна насіць не толькі ў час шлюбнай цырымоніі.

Найбольш адпаведнымі на шлюб з'яўляюцца камплекты: можа гэта быць сукенка з плашчом, або сукенка з жакеткаю. Можна шыць з шэрсці, эланы, з тоўстага шоўку або бракату. Колеры: белы, блакітны, бледнаружовы, бледназялёны — абавязкова ясныя колеры. Дадаткі: пальчаткі і туфлі — белыя.

Вельмі, вельмі моднай з'яўляецца каронка. Добра на шлюбны касцюм купіць тоўстай белай каронкі. Падаю элеганцкі і прытым просты фасон касцюма. Спадніца простая, жакетка таксама простая, без зашывак і кароткая (да лініі клубаў). Малы каўнерык і складка пры засцежцы — з белага атласу. Жакетка зашпільваецца на белыя гузікі — жамчужыны (пэрлы) вельмі модныя. Спадніца і жакетка (без рукавоў) шыюцца разам з падшэўкаю. Рукавы без падшэўкі. Пад жакетку можна пашыць блузку без рукавоў і каўнерыка з таго самага матэрыялу што складка і каўнерык.

Найбольш выразны — «шлюбны акцэнт» — гэта галаўны ўбор. Калі ўжо з вэлюмам — то кароткі. Але ў гэтым годзе модныя вельмі хусткі, зробленыя з вэлюма, каронкі або бракату. Найлепш з таго матэрыялу, з якога зроблена сукенка, або сукенка — касцюм.

*Аксіння*

# У справе даязджаючых вучняў

*(Працяг са стар. 1)*

### ШТО ПАСТАНОЎЛЕНА Ў ГЭТЫМ НАПРАМКУ

Здаецца, што зроблена не мала. Перад усім вартая пахвалы акцыя «шклянкі гарачага малака». А больш усяго арганізаванне ў школах сталовак. Большая фінансавая дапамога моладзі даязджаючай. Дырэкцыя ПКП у Варшаве і Куратoрыя беластоцкай школьнай акругі выдалі рэгулямін, які абавязвае ў вагонах выдзеленых для даязджаючай моладзі ў школы. Урэшце паасобныя школы мелі на школьных легітымацыях ставіць спецыяльныя пячаткі, ці вучань мае заняткі рана, ці пасля абеда. Адпаведныя асобы з ПКП, міліцыі, настаўнікі і школьная адміністрацыя мелі рэалізаваць гэтыя пастановы і кантраляваць іх выкананне. Былі галасы, якія дамагаліся ад улад ПКП і кураторыі, каб арганізавалі прывакзальныя святліцы для школьнай моладзі.

### ЧАГО НЕ ЗРЭАЛІЗАВАНА

Са смуткам трэба сказаць, што многіх пастаноў не зрэалізавана. І здаецца, што ніхто гэтым у апошні час не цікавіцца. Колькі разоў я не пытаў абслугі паяздоў, дык ніхто амаль не ведае аб успамянутым рэгуляміне. Нічога аб ім не ведаў і кіраўнік чыгуначнага камісарыята міліцыі, якому я першы паказаў змест рэгуляміна. Мала калі выдзяляюцца вагоны «для школьнай моладзі», але калі яны і ёсць, дык ніхто з чыгуначнай службы не перасцерагае рэгуляміну.

Вышэй сказанае прыводзіць да наступных вывадаў: справай даязджаючай моладзі павінны цікавіцца ўсе. Не хопіць толькі прыняць дасканалыя пастановы, трэба сачыць за іх рэалізацыяй, кантраляваць іх выкананне. Неабходна тымі справамі зацікавіць маладзёжныя арганізацыі. Маем многа прыкладаў, што моладзь сама сябе лепш пільнуе, чым гэта робяць нават самыя выдатныя выхаваўцы. Шырэй праблематыкай даязджаючай моладзі да школ зацікавіць педагагічныя групы ОРМО. Усе памагайма даязджаючым вучням.

*Аляксей Карпюк*

# ЦЭНЫ

Ваяводская камісія цэн у Беластоку пастаянна сочыць за ўзроўнем цэн на кірмашах, дзе не абавязваюць дзяржаўныя цэннікі. Яе працаўнікі ў мінулым тыдні (у чацвер — у Беластоку і ў Бельску, а ў сераду — у Гайнаўцы) аднатавалі наступныя цэны:

| Прадукт | мера | Беласток | Бельск | Гайнаўка |
|---|---|---|---|---|
| жыта | цэнт. | 300 | 280 | 300 |
| пшаніца | цэнт. | 250 | 380 | 360 |
| яйкі | 1 шт. | 1,60 | 1,30 | 1,30 |
| масла | кг | 62 | 55 | 50 |
| ялавічына | кг | 37 | 33 | — |
| свініна | кг | 38 | 36 | 36 |
| сала | кг | 34 | — | 35 |
| бульба | цэнт. | 1,60 | 1,00 | 1,10 |
| цыбуля | кг | 4 | 4 | 3 |
| капуста | кг | 3 | — | 2 |
| морква | кг | 2 | 2 | 2 |
| буракі | кг | 2,25 | 2,20 | 2 |
| сена | цэнт. | 110 | — | 150 |




*Калі на Вялікадзень цячэ, то да Сёмухі болей дажджоў чым пагоды.*

*Красавік з вадою, май з травою.*



 

*Чужое хвалім, а свайго...*

# Рыгор Вэрэмчук

Жыве ў вёсцы Кошкі, што ў Бельскім павеце. Гаспадарыць на чатырнаццаці гектарах зямлі. Не найлепшай, бо палічылі яе ў 4-ты, 5-ты і 6-ты класы. Зямля раскінута па многіх палосках.

Разглядаюся па падворку. Тут многа розных машын: *касілка, капачка да бульбы, сеўнік, бензінавы рухавік, манеж.*

— Гэта ўсе вашыя ўласныя? — здзіўляюся.

— А чые ж маглі б яны быць? — кажа гаспадар і зараз дабаўляе: — У нас у Кошках многа гаспадароў мае ўласныя машыны. Але што з таго, калі конькі іх цягнуць прыходзіцца. Я восы сам вымушаны трымаць двое коней і двое жарабят. Трактар і машыны, якія яму спадарожнічаюць, вельмі нявыгадны на нашых палосках.

— А ўсё ж вы дабіваецеся на сваёй гаспадарцы даволі вялікага даходу, калі змаглі купіць сабе столькі розных машын! З чаго гэта?

— Кантрактую віку, сарадэлю, канюшыну і белы лубін. Сею жыта, авёс і крыху пшаніцы, вырошчваю бульбу, прадаю малако. Плён? Нядрэнны, бо трымаю многа жывёлы і не шкадую на поле гною. Купляю таксама штучныя ўгнаенні. Але найбольш грошай жыхары нашай вёскі атрымоўваюць за саламяныя маты.

— Гаворацъ, што гэтыя саламяныя дарожкі толькі шкодзяць вам добра гаспадарыць, што каб атрымаць простую салому, усе людзі жнуць тут сярпамі, як калісьці нашыя продкі.

— Хто так кажа?! — абураецца гаспадар. — Наадварот, каб мець як найбольш часу на прадукцыю мат, мы і карыстаемся машынамі, бо тады хутчэй ідзе праца. А што загон адзін, другі сажнем сярпом і вымалацім цэпам — гэта не бяда.

Гутарку спыняе жанчына, якая ад парога хаты закрычала:

— Грыша, ідзі дахаты! Сціральная машына сапсавалася, і ніяк не магу ўладзіцца з ёю!

Сельскагаспадарчыя машыны, сціральная машына, радыё, а незадоўга — тэлевізар... І ўсё гэта ў аднаго гаспадара. Аж не верыцца, што жыве ён у вёсцы на Беласточчыне! Сапраўды чужое хвалім, а свайго не бачым.

*В. Рудчык*

# Пра малое-вялікае Гродна

**(Працяг са стар. 2)**

Гродзенскае аддзяленне Абласнога Саюза пісьменнікаў Беларускай ССР пастаянна апякуецца шматлікімі літаратурнымі гурткамі, от, такімі, як наша «Белавежа».

Разгаварыўся я з Аляксеем Карпюком наконт літаратурнай працы. Тыраж яго кніжак ужо перавысіў паўмільёна экземпляраў, перакладаліся яны на пяць моў. Кожны пісьменнік мае сваю ўлюбёную кніжку — яго ўлюбёнай з'яўляецца кніжка «Данута», якая выдавалася ўжо восем разоў (першая яе назва «У маладыя гады», перадрукоўвалі мы яе ўрыўкамі ў «Ніве»). Над гэтай аповесцю працуе ён па сённяшні дзень — шліфуе, перарабляе, паляпшае. Перапісаў яе штосьці каля трыццаці разоў! Гэту «трыццатку» я адрасую ў асаблівасці самому сабе і сваім калегам-аматарам з «Белавежы».

Гэтым акцэнтам канчаю сваю рэляцыю аб літаратурным Гродне.

**Сакрат Яновіч**



*Сельская гаспадарка без таямніц*

# АЗОТ НА ПОРЦЫІ

Аб значэнні азоту на ўраджай няма чаго і гаварыць. Беластоцкія сяляне ўжо не першы год прымяняюць гэтае ўгнаенне і бачаць яго карысць. Перакананне да азотных угнаенняў вынікае ад таго, што ўздзеянне азотных угнаенняў вельмі хуткае, лёгка заўважальнае, нават пры малых нормах стварае магчымасці значнага павелічэння ўраджаяў.

Але «як замнога, то нязДарова». Калі прыміняць замнога азотных угнаенняў, вынікі могуць быць вельмі жалосныя. У такім выпадку збожжа пачынае расці вельмі буйна і ў выніку вылягае. Тады неабходна даваць большыя порцыі і фосфарна-калійных угнаенняў.

Доследы, праведзеныя ў нашым ваяводстве, паказалі, што азот уздзейнічае на гушчыню раслін, а гэтым самым і на ўраджайнасць. Найлепшыя вынікі дае ранняе ўгнаенне азотам. Як паказалі эксперыменты беластоцкіх сялян, якія супрацоўнічаюць з Інстытутам угнаенняў і глебазнаўства, 30 кг азоту (чыстага рэчыва), высеянага на пачатку веснавой вегетацыі, прынесла ўзрост ураджайнасці на 3,4 ц з гектара. Калі яшчэ такую самую порцыю азоту высеялі ў час паяўлення сцябла, узрост ураджайнасці склаў 1,5 ц.

У гэтым другім выпадку даследвалася таксама ўздзеянне фосфарна-калійных угнаенняў. Павелічэнне нормы фосфару з 27 да 54 кг, а калію — з 40 да 80 кг павысіла ўраджайнасць яшчэ на 0,9 ц.

Таму спецыялісты сельскай гаспадаркі звяртаюць увагу на патрэбу ўсебаковага ўгнаення, г. зн. галоўным чынам азотам, фосфарам і каліем. Усё больш пашыраецца вапнаванне глебы з мэтай змяншэння кіслотнасці ў глебе і аднаачасова ўзбагачэння глебы вапнай. Нярэдка гаворыцца аб неабходнасці даваць глебе магній, серу і іншыя элементы. Сяляне павінны памятаць аб розных угнаеннях згодна з патрэбамі раслін і якасцю глебы. Добрым дапаможнікам у гэтым для сялян могуць быць глебавыя карты, апрацаваныя хімічна-сельскагаспадарчай станцыяй.

Ведаючы якасць глебы і патрэбы раслін (напр. збожжа патрабуе каля 50 кг азоту, 72 кг фосфару і 60 кг калію ў чыстым рэчыве), можна рацыянальней выкарыстоўваць угнаенні. Галоўная рэч — атрымаць прырост ураджайнасці пры такой колькасці ўгнаення, каб гэта матэрыяльна аплачвалася. Найчасцей у беластоцкіх умовах прырост ураджайнасці дасягае 4—5 ц з гектара (у адносінах да няўгноенага поля), а кошт угнаення пераважна не перавышае 2 ц збожжа. Варта яшчэ пры гэтым памятаць, што і ў наступныя гады на гэтым полі будзе лепшы ўраджай іншых раслін.

Давайце дакладна аблічым, выкалькулюем і будзем купляць угнаенні. Гэта напэўна будзе даходная справа.

*Інж. М. Сухажэбрскі*

## Кураняты

**Вясна — час куранят. Толькі адно Беластоцкае прадпрыемства ў сваіх інкубатарах выпрадукуе сёлета звыш паўтара мільёна штук гэтых пушыстых птушанят. А Беластоцкаму прадпрыемству падпарадкаваны дзесяць іншых у ваяводстве, ды яшчэ гэта не ўсе фабрыкі (не ўлічваючы зразумела квактух) жывога шчабятлівага матэрыялу.**

**(вр)**

## Сустрэча выпускнікоў савецкіх вузаў

Ваяводскае праўленне Таварыства польска-савецкай дружбы ў Беластоку арганізавала нядаўна сустрэчу выпускнікоў савецкіх вышэйшых навучальных устаноў, якія зараз працуюць на Беласточчыне. Сустрэча, у якой узяло ўдзел больш 20 асоб, праходзіла ў вельмі цёплай і сардэчнай атмасферы. Некаторыя з удзельнікаў падзяліліся ўражаннямі з паездкі ў СССР і пабыўкі ў сваіх вузах. Прысутныя выказалі жаданне арганізаваць пастаянныя сустрэчы. З гэтай мэтай паклікана пяціасабовую камісію абсальвентаў савецкіх вузаў пры ВП ТППР. Быў таксама выбраны дэлегат на агульнакраёвы з'езд.

Усе з задавальненнем прынялі паведамленне прадстаўніка ТППР аб тым, што Галоўнае праўленне ТППР будзе арганізаваць экскурсіі ў СССР да тых вышэйшых устаноў, у якіх вучыліся былыя студэнты з Польшчы. (мх)

# Апавяданне—жанр складаны

**(Працяг са стар. 1)**

**Ёсць у апавяданнях С. Раманчука некаторыя стылістычныя агрэхі, часамі лішнія сказы, ці няўдалыя словы. Напрыклад, у апавяданні «Вар'ятка»: «Ішла сама, зноў сама» (стар. 172) Вядома, што сама ішла, а не хто-небудзь за яе пераставуляў ногі. «Вось і сёння зноў сама засталася старая маці» (стар. 174). У абодвух выпадках патрэбна слова адна, якое больш ярка падкрэслівала б тую адзіноту, што акружае старую, уплывала б на эмацыянальна-экспрэсіўную настраёвасць апавядання.**

**Увогуле ж апавяданні Сымона Раманчука прыцягваюць цікавым сюжэтам, пластычнай лепкай канкрэтных, індывідуальных характараў, эмацыянальнай усхваляванасцю аўтарскай мовы, напружанымі калізіямі. Будзем чакаць яго новых твораў.**

**З трох апублікаваных у альманаху празаічных твораў А. Барскага найлепшым трэба прызнаць апавяданне «Лянарда». Скупымі штрыхамі малюе аўтар галоўнага героя, але перад намі яскрава паўстае яго вобраз, яго характар. Лянарда бачыць увесь сэнс жыцця ў тым, што выразае з дрэва розныя фігуры. Ён закаханы ў сваю працу, не можа без яе жыць.**

**Але вось у яго хаце паяўляюцца гарадскія госці, якія ў захапленні ад твораў мастака-самавука.**

**Праз некаторы час прыходзіць пісьмо, у якім Лянарду прапануюць «нейкую стыпендыю» ў 5000 злотых, толькі каб ён выразаў фігуркі для музея.**

**Мастак, які ніколі ў жыцці не прадаваў працу сваіх рук за грошы, бярэ сякеру і ад фігурак застаецца куча трэсак.**

**А. Барскі вельмі ярка выразіў у гэтым апавяданні думку, што сапраўднае мастацтва не прадаецца ні за якія грошы. Лянарда — сапраўдны народны мастак, у выразаныя з дрэва фігуркі ён уклаў сваю душу, сваё сэрца, і свае творы ён хоча бачыць жывымі, такімі, як ён іх стварыў, а не ператоранымі ў пакалечаныя грашовыя паперкі.**

**Апавяданне ж А. Барскага «Кроў» не ўдалося аўтару таму, што сваю задуму ён не здолеў увасобіць у паўнакроўныя мастацкія вобразы. Андрэй і Базыль не сталі сапраўднымі характарамі — тыпамі, бо мы іх амаль не бачым як жывых людзей. Чытаючы іх дыялог мы адчуваем, што гэта гавораць не героі, а аўтар, які зададзена, пад ідэю падганяе словы.**

**Прыцягваюць увагу чытача сатырычныя апавяданні Юркі Геніюша. За такімі іранічна-саркастычнымі мініяцюрамі як «Ой, ты доля мая», «Як мы арганізаваліся» стаяць вельмі важныя, надзённыя грамадскія, чалавечыя праблемы, хоць галоўным «героем» гэтых апавяданняў і з'яўляецца стары сабака Тарзан. Думаецца, што Ю. Геніюшу варта працягваць працу ў тым жанры, да якога ён звярнуўся на пачатку творчай дарогі. Ёсць усе падставы спадзявацца, што на гэтай дарозе ў яго будзе шмат творчых удач.**

**Нават цяжка вызначыць, да якога жанру адносяцца творы Сакрата Яновіча. Тут мініяцюры, экспрэсіі, замалёўкі, кароткія навелы. Адчуваем тут ярка выражаны бабелеўскі ўплыў; нешта падобнае ў свой час пісаў Змітрок Бядуля (успомнім яго экспрэсіі ў зборніку «Абразкі»). Адно несумненна — многа сярод твораў С. Яновіча арыгінальных і цікавых. Назавем хоць бы такія як «Сыну», «Прыехаў», «Салдату», «У шлюбнай пасцелі», «Прыгажосць», «Пісьмы да таты», «Дзяга» і інш.**

**Апавяданні С. Яновіча кароткія, а таму патрабавалі ад аўтара скандэнсаванасці думак, чоткай і пруткай пабудовы сказа, дынамікі дзеяння. У большасці выпадкаў аўтар справіўся з пастаўленай перад сабой задачай. Ёсць, праўда, і такія мудрагелістыя рэчы, як «Квіты». Гэтае наўмыснае жангліраванне дэталлю — адарваны кулак — наўрад ці мела які-небудзь сэнс.**

**Тут няма магчымасці гаварыць пра творы ўсіх празаікаў «Белавежы» № 1. У кожнага з іх свае тэмы і праблемы. Вырашаюцца яны ў меру сіл і таленту кожнага аўтара. Большасць аўтараў апавяданняў, змешчаных у альманаху, толькі пачынае свой творчы шлях. А апавяданне — жанр складаны.**

**Што хацелася б пажадаць белавежцам — празаікам. Больш увагі да героя, да яго ўнутранага свету. Старацца ставіць яго ў такія сітуацыі, каб яны былі жыццёва-праўдзівымі, прымушаць гаварыць так, каб не адчувалася, што гэта робіць за яго аўтар. Адным словам, не расказваць пра героя, што яшчэ частае ў апавяданнях на старонках «Белавежы», а паказваць яго. Паказваць жывым чалавекам з усімі яго дадатнымі рысамі, каб чытач верыў у праўдзівасць таго, пра што апавядае аўтар, бачыў за створаным вобразам кавалак жыцця.**

**БАРЫС ЛІСАВЕЦ**

## Прашу прабачэння!

У артыкуле «Вон», апублікаваным у лістападаўскім 46 нумары «Нівы» прыводзілася апінія некаторых тапалянцаў аб сыне Івана Зіневіча, які быццам бы камбінацыямі ўмясціў сваю маці ў бальніцы і, такім чынам, мабыць, заняў месца належнае хворай Паўліне Паўлючук.

Пасля працяглай праверкі гэтага факта аказалася, што цытаваная апінія аб сыне Івана Зіневіча была няслушнай.

Прашу прабачэння! (ся)

*«Ніва» — у кожнай беларускай сям'і. Чытайце і распаўсюджвайце «Ніву».*

# ТРЫБУНА чытачоў

## Сельгасгурток у Плянце

Сельскагаспадарчы гурток у Плянце, які ўзначальвае Антон Грыцук, мае шмат сельскагаспадарчых машын. Гурткоўцы супольна загаспадаравалі 249 га зямлі. У мінулым годзе баланс плянтаўскага гуртка акрэсліваўся сумай 111 тысяч зл.

24 гурткоўцаў зараз пастаянна ходзяць на курс сельскагаспадарчых парад, які арганізаваўся ў вёсцы. Яны стварылі групу, якая ўключаецца вясною і летам да знішчэння каларадскага жука. Усе гурткоўцы штогод павялічваюць высеў мінеральных угнаенняў на лугах, пашах і сенажацях, садзяць больш бульбы і сеюць траву, рацыянальна апырскваюць палеткі дзеля знішчэння пустазелля. У г. г. члены гуртка запланавалі закупіць: касілку, зграбалку і 4 плецаковых апырсківачы.

Пры сельскагаспадарчым гуртку ад 1964 года існуе гурток вясковых гаспадынь, які ўзначальваецца Зояй Клімюк. Згуртавалася 32 вясковых жанчыны. Арганізавалі яны кулінарны курс (гатавання і пячэння), зараз гадуюць 900 штук куранят. У г. г. намераны яны сарганізаваць у час палявых прац дзяцінец, прыступіць да конкурсу вырошчвання гародніны, арганізаваць лекарскія сустрэчы і курс гатавання павідлаў і кампотаў.

*Янка Цялушэцкі*
Новае Ляўкова

## Пытанні і адказы

Вёска Шэрні (Бельскі павет) налічвае 60 гаспадароў. Ёсць у нас святліца, у якой адбываюцца забавы. На жаль, у вёсцы няма тэлевізара. Жыхары вёскі хацелі б таксама, каб прыязджала аб'язное кіно хаця раз на месяц. Думаю, што рэдакцыя дапаможа нам у гэтых клопатах. Чакаю хуткага адказу.

*Уладзімір Сасна*

Паважаны Сябра! Цяжка, а нават немагчыма рэдакцыі дапамагчы ў Вашых клопатах. Тэлевізар павінны купіць за свае грошы сяляне Вашай вёскі. У іншых вёсках з пакупкай тэлевізара бывае так, што выкарыстоўваюць на яго ўзнагароды прызначаныя якой-небудзь арганізацыі, а калі ўзнагароды не хапае, тады ападатковываюцца гаспадары па 100 зл. або і больш.

Адносна даезду да Вашай вёскі кіно, неабходна жыхарам вёскі звярнуцца да павятовай стражы пажарнай, каб заквахіфікавала Вашу залу да высвятлення фільма. Калі такое пасведчанне будзе, тады трэба звярнуцца да ваяводскага праўлення кіно (Wojewódzki Zarząd Kin, Lipowa 14) адносна ўпісання Вашай вёскі ў маршрут аб'язнога кіно.

## Няма дзе жыць

Юзэф Гайда з'яўляецца працаўніком воднамеліярацыйнай установы ў Бельску. Жыве ён на вёсцы ў зямлянцы, якая працякае. Знішчылася яна, і зусім немагчыма там жыць. Зямлі ён не мае. Нават тая хацінка-зямлянка стаіць на чужой зямлі. Многа раз звяртаўся ён да бельскіх устаноў, каб атрымаць якое-небудзь памяшканне. Але дзе там. Адказваюць, што калі жывеш на вёсцы, дык не дамагайся хаты ў горадзе. Юзэф Гайда зусім там нічога не мае, апрача знішчанай зямлянкі. І крыўдна яму, што на яго заявы бюракратычныя адказы даюць бельскія ўлады.

**К. С.**
Бельскі павет

### НЕПАДАЛЁК ТРАШЧОТАК

**По шашы з Бельска ў Нарву непадалёк вёскі Трашчоткі знаходзіцца хмызняк, які называецца тут хваінай. Жыхары Трашчотак вырубалі хваіну, ачысцілі хмызняк ад карчоў і пад кіраўніцтвам надлясніцтва распачалася пасадка лесу. Бярэ ў ёй удзел моладзь Трашчотак, Мякіш, Сапава, Ляшчын, Гукавіч і Піліпак. Работа праходзіць вельмі весела. Нясуцца ў даль мелодыі песень, чуецца вясёлы смех і цікавыя жарты.**

**Янка Аўрамюк**
Трашчоткі

### МАТАЦЫКЛІСТЫ

У Трывежы (Гайнаўскі павет) закончыўся нядаўна курс язды на матацыкле, на які хадзіла 42 асобы. У хуткім часе наша аколіца будзе мець яшчэ 42 матацыклы, таму што ўсе ўдзельнікі курсу плануюць купіць гэтую вельмі выгодную машыну. І так, на вёсцы ўжо матацыклы выціскаюць веласіпеды. Усюды мода на механізацыю.

**Аляксандр Варонка**
Рэпіска

### ЗМЯНЯЮЦЦА ЛІПІНЫ

Вёска Ліпіны ляжыць непадалёк ад Гайнаўкі. З кожным годам яна аднаўляецца. У 1965 годзе пабудавана тут злеўня малака. Кожны дзень многа малака адвозіцца ў Гайнаўскую малачарню. У 1961 годзе вёска была электрыфікавана. У кожнай хаце ёсць радыёпрыёмнік. Трох гаспадароў маюць тэлевізары. Згодна з планам у Ліпінах будзе пабудавана чатырохкласная школа, крама, надлясніцтва і святліца.

**Марыся Петручук**
Ліпіны

### У КОЙЛАХ СКУП КАШОЎ

У вёсцы Койлы пару месяцаў таму назад распачаўся скуп саламяных кашоў. Амаль кожны жыхар вёскі Койлы пляце кашы. У кожнай хаце ўбачыць можна кучу саломы і лыка. Не толькі жыхары Койлаў трудзяцца пляценнем, але таксама жыхары многіх іншых вёсак Гайнаўскага павета. Найбольш кашоў дастаўляюць жыхары вёскі Грабавец і Арэшкава. Кожны кош каштуе 120 зл. Кашы з Койлаў едуць у шырокі свет. Купляюць іх ад нас англічане, канадцы і бельгійцы.

**Я. І.**
Койлы



*Кіраўнік школы Мікола Якубюк расказвае, як трэба садзіць дрэва.*

## Школьнікі садзяць дрэвы

Вельмі прыемна, калі дарога абсаджаная дрэвамі. Настаўнікі пачатковай школы ў Пасынках (Бельскі павет) правялі гутаркі са школьнікамі аб значэнні дрэў пры дарозе. Школа рашыла, што вучні ад IV па VII класы ў вясновым перыядзе абсадзяць дарогу, акая спалучае Пасынкі з Локніцай і Пасынкі з Зубавам. У суме будзе пасаджана 400 дрэвак. Саджанцы мае ГРН у сваёй «школцы». 19 сакавіка школьнікі прыступілі да рэалізацыі сваёй пастановы і пасадзілі ў гэты дзень 100 штук саджанцаў. За гэтую працу школьнікам будзе арганізавана экскурсія ў рашарню ў Бельску.

*П. Зінкевіч*
Бельск

## У маёй вёсцы

Я жыву ў Ахрымах. У нашай вёсцы за апошнія гады многа чаго змянілася. Калісьці на вуліцы было балота, а цяпер шырокі брук. Аж люба глядзець і прайсціся па ім. Калісьці сяляне мелі сваю зямлю ў дзвацаці кавалках і больш, а цяпер дзякуючы прэзасу ПЗГС у Гайнаўцы, Кастусю Майсеню, які сарганізаваў нам грамадскую камасацыю, сяляне маюць зямлю ў аднаю - двух кавалках. Яшчэ вельмі цешымся з таго, што ў нашу вёску ўвосені 1967 г. правядуць электрычнае святло.

Цяпер у вёсцы вельмі хораша, усе дамы пакрыты чарапіцай. Вуліца высаджана дрэвамі. Некалькі сялян пабудавала мураваныя дамы. У нас існуе сельскагаспадарчы гурток, які мае шмат сваіх машын. Жыхары Ахрымаў зараз сеюць сеялкамі, а восенню малоцяць не цэпамі, а толькі машынамі.

*Валодзя Дрэўноўскі*
Ахрымы

## Здарэнне з воўкам

Было гэта даволі даўно ў Кандратах (зараз Беластоцкі павет). У мінулым амаль усе жыхары вёскі насілі ільняныя кашулі, а жанчыны хадзілі ў кашулях канопных. Шылі жанчыны кашулі доўгія, амаль па пяты. Спераду ў кашулі быў доўгі разрэз. Сяляне тады будавалі хлявы для авечак зусім невысокія з нізенькімі дзвярыма. Аднойчы ноччу выйшла жанчына на двор і чуе, што ў авечніку нейкі ломат. Зусім не падазравала яна, што туды забраўся воўк. Жанчына пабегла да авечніка, адчыніла дзверы, нагнулася і прыглядаецца, што там робіцца. У гэты час прануўся воўк уцякаць з авечніка і галавой трапіў гэтай жанчыне ў разрэз кашулі, і жанчына села на хрыбет ваўку. І панёс яе, пералякаўшыся, у карчы. Са страху ваўка пагнала крывёю і ён хутка здох. Раніцай непрытомную жанчыну знайшлі на ваўку. Пасля такой выключнай і небывалай язды на ваўку жанчына некалькі месяцаў хварэла.

*Васіль Дзун*
Гайнаўка

як Налівайка ўзяўся за ядлоўчык, прыпадняў цэлы куст, і камісар убачыў люк.

— Ледзь не цэлай вёскай капалі. А пясок насілі торбамі за кіламетр...

Хлопец засвяціў батарэйку, палез у адтуліну. За ім падаўся здзіўлены Косця. Унізе камісара абдало холадам склепа. Калі Косця прызвычаіўся да ніклага святла, то разгледзеў вялізную зямлянку, у ёй гурбу вінтовак, гранатаў, скрыняў з патронамі.

— ?!

— З Сашкам Янкевічам, з Казлоўскім Васілём, Навіцкім... пазвалакалі сюды з Беластоцкай шашы, калі адступілі нашыя, — вінавата тлумачыць Грыша.

— І ты дагэтуль маўчаў?

— Ну!

— Падавай наверх!

...У Скрабляцкім лесе знаходжу сваіх — узброеных зноў і амаль супакоеных. Кардаш хваліцца дзіркамі ад куль у плашчы. Курцэвіч згубіў акуляры, смяюцца з яго, — я гатоў іх усіх абняць і расцалаваць!

Знаходзіць нас і Міцька з разведчыкамі. На кароткай нарадзе ўхваляем: начштаба з разведчыкамі адпраўляецца ў Каралёўскі лес рыхтаваць стаянку для атрада, сачыць за паводзінамі немцаў у Валілах, Крынках, Гарадку, Бераставіцы. Я з камісарам і з цэлым атрадам застаюся ў Ліпніках. Калі немцы наладзяць чыгунку і рушаць паязды, пусцім пад адхон наступны эшалон, толькі тады адправімся на новае месца.

ПРАЦЯГ БУДЗЕ

218




### ДАРАГОЕ СЭРЦАЙКА!

Маю сяброўку, якая жыве ў той жа самай вёсцы, што і я. Гэта мая найлепшая сяброўка. Мы маем па 21 годзе. Марыся (гэта мая сяброўка) паўгода таму назад выйшла замуж. Муж яе на два гады старэйшы. Я часта заходжу да Марысі. І вось што, Сэрцайка, здарылася. Я даведалася аб Колі страшную рэч. І гэта праўда, не плётка, бо сама на свае вочы бачыла. Ад нейкага часу (праўда, не доўга) Коля позным вечарам заходзіць да адной разводкі, якая жыве са мной па-суседску. Аб гэтым я даведалася ад другой суседкі, але не верыла. І вось у адну нядзелю бачыла на свае вочы, як ён падыйшоў да акна, лёгка застукаў і выйшла яна адчыніць Колі дзверы. Я вельмі знервавалася. Шкада мне Марысі. Не ведаю, што рабіць. Таму і напісала да цябе аб параду. Не хачу рабіць нічога злога Марысі, хачу як найлепш. І не ведаю, ці сказаць аб гэтым Марысі, ці не. Напішы мне, што думаеш.

**Вера**
з Дуброўшчыны

Дарагая Вера!

Вельмі добра, што ты да мяне напісала, што неабдумана не паступіла. Бо вядома ж, у гарачцы, можна часамі зрабіць больш дрэннага чым добрага. Ты, Вера, не павінна нічога гаварыць Марысі. Яна Колю кахае і ты б ёй зраніла сэрца. Безумоўна, што тут з маёй «рацыяй» не ўсе могуць згадзіцца. Аднак не заўсёды прыказка «лепшая горкая праўда, чым салодкая няпраўда» мае сваю рацыю. Коля яшчэ мае толькі 23 гады. У такіх гадах большасць мужчын яшчэ не пасталелыя, не ўмеюць глядзець сур'ёзна на жыццёвыя справы. Мне здаецца, што і Коля напэўна не задумваецца над тым, што ён робіць вялікае зло не толькі Марысі, але і сабе. Бо калі б Марыся даведалася, вядома, што было б у іхняй сям'і. Гэта можа знішчыць усё іх жыццё, усю іх будучыню. Мо гэта пяройдзе Колі, мо ён сам зразумее сваю памылку.

**Сэрцайка.**

# КІНО

**Праграма**
**на 12—17. IV. 1966 г.**

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**

„Spotkanie na przeprawie" (radz.), 12—13. „Kapral i inni" (węgierski), 14—15. „Święta wojna" (polski), 16—17.

**Кляшчэлі**

„Twarzą w twarz" (jugosł.), 12—13. „Chłopiec z 2-ch światów" (duński), 14—15. „Elektra" (franc.), 16—17.

**Дубіны**

„Człowiek z fotografii" (jugosłowiański), „Drewniany różaniec" (polski), 16—17.

**Нарва**

„Wyższa zasada" (czeski), „Lekkoduchy i dziewczyna" (radziecki), 13—17.

**Нараўка**

„Daleka jest droga" (polski), „Skarb" (polski), 13—17.

**Чыжы**

„Gładka skóra" (franc.), „Biały szejk" (włoski), 13—17.

**Дубічы Царкоўныя**

„Ostatni świadek" (NRF), „Babcia, dziadkowie i ja" (radziecki), 13—17.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Bracia" (czeski), „Profesorek" (franc.), 13—17.

**Орля**

„Ballada o dziewczynie" (wietnamski), „Inspektor Morgan prowadzi śledztwo" (angl.), 13—17.

**Райск**

„Strzał we mgle" (radziecki), „Spotkali się w pociągu" (radziecki), 13—17.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

„Mandacik proszę" (włoski), „Obok prawdy" (polski), 16—17.

**Міхалова**

„Przyroda i my" (radz.), 12—13. „Syn skazańca" (angl.), 14—15. „Mam 20 lat" (radz.), 16—17.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**

„Maja Plisiecka tańczy" (radziecki), 12—13. „Witajcie, wstęp wzbroniony" (radz.), 14—15. „SOS na Pacyfiku" (angl.), 16—17.

**Мілейчыцы**

„Zdradzona ziemia" (radz.), 12—13. „Zakwitnie ziemia" (francuski), 14—15. „Małpia kuracja" (USA), 16—17.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Wiosna we wrześniu" (czeski), 12—13. „Jesienny dzień" (wietnamski), 14—15. „Koniec naszego świata" (polski), 16—17.

**Шудзялава**

„Całe złoto świata" (franc.), „Winda towarowa" (franc.), 13—17.

**Сідра**

„Wyższa zasada" (czeski), 12—13. „Lęk" (czeski), 14—15. „Inspektor i noc" (bułg.), 16—17.

**Сухаволя**

„Olbrzym" (USA), „Testament uczonego" (radz.), 13—17.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Новы Двор**

„Biedni bogacze" (węgierski), „Czapajew" (radz.), 16—17.

**Ліпск**

„Mansarda" (polski), „Car Kałojan" (bułg.), 16—17.

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 25-89, centrala 37-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 1.40 zł, kwartalnie — 7.20 zł, półrocznie —14.40 zł, rocznie — 28.80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok i Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23, Nr konta PKO 1-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4.70 $ w Europie, 5 $ — w USA. Nakład 5458 Błtk 893 D-3




# Дзед хуліган

Вось вы гаворыце пра розныя перажыткі. А я раскажу вам жывы анекдот.

У нашай вёсцы Сарочы Хвост жыве дзед Сілівон Царок. А яго баба, Каліна, вельмі сварыцца любіць. Ці ёсць там за што, ці няма, — а яна ўсё дзеда грызе. Вось аднойчы баба Каліна да таго распякла дзеда Сілівона, што ён крыкнуў: «Чым так жыць, то лепш счэзнуць!» — ды й грукнуў дзвярыма...

Аж тут уляцела ў дзедаву хату кума Грыпіна Цыбатая. Ну, вядома, куманькі Каліна і Грыпіна адразу ж распусцілі языкі. Калі ўжо яны добра нагаварыліся, успомніла баба Каліна пра свайго дзеда. «Хваробачкі, — кажа, — вельмі ўспаліў мой Сілівон, хоць бы чаго дрэннага з сабою не зрабіў! Вось пойдзем, Грыпіна, пашукаем яго...»

Выйшлі бабы на панадворак — няма дзеда Сілівона. Заглянулі ў клуню — і там няма. Тады на гару хаты палезлі. А там цёмна, адразу не ўбачыш, што робіцца. Працерлі вочы, глянулі — вісіць дзед Царок на крокве...

Загаласіла баба Каліна. А потым гаворыць: «Збегаю, Грыпіна, папрашу людзей, каб знялі дзеда, бо я і наблізіцца да яго баюся...»

Засталася на гары кума Грыпіна. Глянула ў адзін кут, глянула ў другі, убачыла дзежку, кінулася да яе, аж там сала! Тут баба і захадзіла: схапіла кавалак сала ды й за пазуху, зграбастала другі — туды ж запіхнула. І толькі трэці ўзяла, а дзед Сілівон як гукне: «Ах ты ж старая ведзьма! Хочаш на мае памінкі сала!..»

Заверашчала Грыпіна і падалася задам да дзіркі, каб хутчэй з гары злезці, але з пераляку прамінула драбіну і загрымела ўніз!..

А тут ужо і людзі прыбеглі. Глянулі — нябачанае дзіва! — Мёртвы дзед над дзіркаю схіліўся і рагоча, аж заходзіцца, а баба Грыпіна непрытомная ляжыць... Адлілі вадою, але ўстаць яна не можа, — ногу зламала.

Спусціўся дзед Сілівон з гары і кажа людзям: «Няўжо я такі дурань, каб сам сабе пятлю на шыю накінуў?! У мяне на гэтым свеце яшчэ шмат спраў! Я толькі сваю бабу Каліну настрашыць хацеў. Устраміў у пятлю ніжняе месца, а вяроўку пад кашуляй пусціў і канец да кроквы прывязаў...»

Ну і пра сваю перапалку з кумою Грыпінаю расказаў.

Пацягнулі Сілівона Царка ў суд, бо з яго віны баба Цыбатая ногу зламала. Марока суддзям! Нічога не скажаш, вінаваты дзед Царок. Але ж і баба Грыпіна злачынства ўчыніла — сала крала!

Доўга раіліся суддзі, а потым вырашылі: — Даць Сілівону Царку пятнаццаць сутак за дробнае хуліганства!

Вось якія выявіліся перажыткі ў нашай вёсцы Сарочы Хвост. А вы кажаце!

**ЛАЎРЫН ГРАХА**

## ПЯРЭЧАННЯЎ НЯМА

— Мама, ты нічога не маеш супраць таго, што я закахалася ў Івана Аляксеевіча?

— А што ж такога! У твае гады я ў яго таксама была закахана.

## ЗВАЛЬНЕННЕ

Воўк пісаў справаздачу на імя мядзведзя аб гуманным абыходжанні з авечкамі. Побач стаяла ліса - сакратарка. На паперу села пчала.

— Адкуль яна ўзялася? — узлаваўся шэры.

— Бо тут ліпай пахне, — не падумаўшы сказала рыжая.

Воўк звольніў лісу з канцылярыі.

## УДАКЛАДНІЛА

Ірэнка ідзе з групай дашкольнікаў на прагулку. На лузе пасецца рабая карова.

— Гэта карова дрэнна памылася! — з важным выглядам сцвярджае Ірэнка.

— Не, яна залатаная! — папраўляе сяброўку Марыйка.

# УСЯЧЫНА



Усё людское нам не чужое.

*Кур'ёзы*

## Адпомсціў



Нарвежскі рамеснік Карл Хансен чатыры разы безвынікова скардзіўся ўладам на надта высокі падатак. Вырашыўшы адпомсціць фінансаваму ўпраўленню, ён на 1500 крон намяняў дробных і адвёз у касу ўпраўлення.

«Ніколі яшчэ ўплата падатку не давала мне толькі задавальнення, — гаворыць Хансен. — Прыемна было глядзець, як яны там пералічваюць мае дробныя».



— Чаго вы прычапіліся да дзіцяці? Ён жа не ваша акно разбіў!



САМАКРЫТЫКА

**Мужчыны, якія многа выпіваюць, становяцца самымі гаваркімі... жанчынамі.**

### ХАБАРНІК

**Браў, не глядзеў.**
**З гэтай навукі**
**Назад скрывіліся**
**Рукі.**

**М. Калыска**

## ПРАВЕРЫЛА

Бабулька зайшла ў ашчадную касу і папрасіла, каб ёй выдалі ўсе грошы з яе ўкладной кніжкі. Касір адлічыў належную суму і аддае бабульцы. Тая пералічыла грошы і падае назад:

— Вазьміце, калі ласка.

— Навошта ж вы бралі іх? — здзіўлена спытаў касір.

— Праверыла, ці ўсе яны ў цэласці.

### АБ ЧЫМ ДУМАЎ

Адзін амерыканскі выдавец, убачыўшы задуманага Бернарда Шоў звярнуўся да яго: — Я дам вам долар, калі вы скажаце, аб чым толькі што думалі!

— О, мае думкі так многа не варты!

— Але ўсё-такі скажыце, аб чым вы думалі?

— Аб вас!

### ЗАПІС

Марку Твену нейк давялося спыніцца ў атэлі. У кніжцы для прыезджых ён звярнуў увагу на такі запіс: «Граф Дон Карлос са слугой». Ён падумаў і напісаў: «Марк Твен з чамаданам».

**АКЕНЦА ДУМАК**

Хочаш жыць для сябе, жыві для іншых.

Сенека — старажытнарымскі філосаф.



— Якая ты, мама, адсталая. Пер'і насіць ужо не модна...

## ПРЫВЫЧКА

Настаўнік, прыехаўшы ў незнаёмы горад, падыходзіць да пастаවога міліцыянера:

— Скажыце, калі ласка, дзе вуліца «Зялёная»?

— З плошчы трэцяя налева.

— Выдатна. Прашу садзіцца.

## СУРОВАЕ ПАКАРАННЕ

— Ты ведаеш, якое пакаранне бывае за двужонства?

— Самае страшнае: дзве цешчы.

## ДВОЕ ПАЛЯЎНІЧЫХ

— Ведаеш, Янка, я ўчора падстрэліў зайца кіламетраў на дзесяць.

— А я ў нядзелю забіў, аж на цэлы пуд...

## АСІЛКІ

—Не, што ні кажы, а цяперашняя моладзь хоць і спортам займаецца, а далё-ёка ёй да нас, старых. Мы, прыкладам, з Мітрафанам Сідаравічам яшчэ нядаўна спрабавалі падымаць кавалкі жалеза вагою па тоне!

— Жартуеце, Кузьма Ільіч.

— Стары я, малады чалавек, каб жартаваць. Сур'ёзна кажу: хоць і не паднялі, але спрабавалі.

## ЛЯГЧЭЙ

— Вазьмі мяне на рукі.

— Не магу, у мяне цяжкая сумка.

— А ты дай сумку мне, будзе лёгка.

## ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Галіны М. і Марысі Б. з Беластока змяшчаем песню п. з.

# КАЛЫХАНКА

*Спі, мая радасць, засні!*
*У хаце пагаслі агні.*
*Пчолкі ў саду не гудуць,*
*Рыбкі ў вадзе не плывуць.*
*Месяц на небе бліщчыць,*
*Месяц ў аконца глядзіць.*
*Вочкі свае ты замкні!*
*Спі, мая радасць, засні,*
*Засні, засні!*

*У хаце ўсё сціхла даўно,*
*Ночка глядзіць у акно...*
*Над хатай вяз не скрыпіць,*
*Мышка за печкаю спіць.*
*Нехта ўздыхнуў за сцяной...*
*Я сцерагу твой спакой.*
*Вочкі свае ты замкні,*
*Спі, мая радасць, засні,*
*Зісні, засні!*